# КАЛЯДА

## АДНАДНЕЎКА

Вільня, Серада, 24-га сьнежня 1924 г.

## На рубяжы.

Ліхім словам будзе памінаць Заходняя Беларусь 1924 год, які цераз колькі дзён адыходзе ў вечнасьць.

Запраўды, гэта быў год самых цяжкіх ударaў, самых горкіх расчараваньняў для нашага народу ў Заходняй Беларусі.

Напярэдадні Новага году мы ня маем нават свайго незалежнага ідэйнага органу прэсы, які абслугоўваў-бы беларускае грамадзянства ў межах Польскага гаспадарства: зачынены ў працягу году чатыры беларускія газэты („Змаганьне“, „Голас Беларуса“, „Сын Беларуса“, „Сялянская Праўда“), і цяпер нашу грамадзкую думку выяўляе толькі друкаваная лацінікай і даступная адно для малой часткі нашае люднасьці „Krynica“, ды ад часу да часу выпусканыя ў сьвет аднаднёўкі. Сям'я газэтных працаўнікоў працярэблена: адны праводзяць „сьвяты“ ў Лукішскім вастрозе, другія—каб абмінуць гэта — перабраліся на той бок гранічнае мяжы. Затое край закідаецца бруднымі лісткамі групы здраднікаў і крымінальных праступнікаў, згуртаваных каля аслаўленага Валэйшы і ягонага органу „Грам. Голас“.

Стан нашае прэсы мо' найлепш характарызуе палажэньне Заходняе Беларусі. Але яшчэ больш сумны абраз прадстаўляе наша школа. Тут—разгром яшчэ больш поўны. Ад тых 500 беларускіх народных школ, якія мы—пачынаючы ад 1916 году — будавалі з такім страшэнным напружаньнем усіх сіл сваіх і энэргіі, не асталося ніводнай. 20 тысяч вучняў аказаліся пазбаўленымі магчымасьці вучыцца ў роднай мове. 500 вучыцялёў асталіся бяз хлеба. Апошні-ж акт ліквідацыі беларускае школы адбыўся ў 1924 годзе: іменна сёлета былі пазакрываны захаваўшыяся йшчэ нейкім цудам апошнія 20—30 беларускіх народных школ.

А беларускія гімназіі? Ня гледзячы на доўгае змаганьне, на паўгалоднае жыцьцё ахвярных працаўнікоў сваіх, тры гімназіі, фактычна, былі *прымушаны* да ліквідацыі—тры з агульнае лічбы пяцёх....

Няма школы—няма збыту на кніжку беларускую. А няма ходу кніжцы, дык і выдавецкая справа спыняецца, пачынаецця застой у выдавецкай працы, а школьны падручнік трухлее без карысьці на кнігарняных полках....

А тэатр беларускі — наша краса, наша радасьць? Яго ў Заходняй Беларусі зусім ужо няма...

Ад гэтых сумных абразоў зьнішчэньня нашых *культурных* заваяваньняў пераводзім вочы ў другія галіны жыцьця. Як-жа забясьпечывае беларус свой *матарьяльны быт*?

Перакідаем страніцу за страніцай беларускія ідэйныя часопісі. І з кожнай страніцы чуваць крык жалю, наракгньня на цяжкое жыцьцё. Гаспадарка зьнішчана. Адбудавацца не памагаюць. Зямлі не даюць, — яна ёсьць толькі для „асаднікаў“. А падаткі — многалічныя, непанятныя, дакучлівыя сваім множаствам і тым больш цяжкія: бы восенскія мухі, яны не даюць ні на часіну супакою. Так-званыя „самаўрады“ ня толькі не памагаюць нашай вёсцы, але йшчэ ўзьвялічваюць лічбу падаткавых цяжараў. Дык стараецца селянін беларускі шукаць сабе рады ў самапомачы — каапэрацыі. Творыць свае саюзы, цанралі. Але і тыя аказваюцца ў руках чужынцаў, і яны абернены ў „палітычныя экспазітуры“...

Сумна, праўда? Але сумам жыць нельга, сумам жывы народ жыць ня можа. І наш народ беларускі змагаецца з *прычынамі* гэтага суму, як умее.

Наперадзі йдуць нашы прадстаўнікі—выбранцы: нашы соймавыя дэпутаты. Цьвёрда стаяць яны за свой народ, за яго права на волю, на людзкае жыцьцё, на родную школу, на зямлю. І барацьба іх пачынае даваць плады—іменна сёлета, іменна ў той мамэнт, калі здавалася, што мы зайшлі ў нейкі тупік, скуль няма выхаду. Польшча — тая афіцыяльная Польшча, якую прадстаўляюць парлямант і ўрад, — *прызнала нашае права на родную школу* і выдала „языковыя“ ўставы для беларускае школы. І хоць сам урад ня хоча тварыць беларускае школы,—усё-ж такі перад намі раскрываюцца нейкія новыя магчымасьці, а перад усім—магчымасьць тварыць сваімі сіламі, на свой кошт, саматугам беларускую *прыватную* школу. „Ня будзем ім перашкаджаць у гэтым“, сказаў надовячы міністар Тугутт у Вільні.

І вось аказваецца, што наш народ, ня гледзячы ня свой культурны і эканамічны занапад, ужо дасьпеў да таго, каб сваімі ўласнымі рукамі тварыць тое, чаго яму адмаўляе дзяржава. І беларус творыць сваю родную школу, школы адкрываюцца дзесяткамі, сотні прыгавараў пасылаюцца ўладзе аб адкрыцьці дзяржаўных беларускіх школ, на якія мы плоцім вялізарныя грошы ў пастаці падаткаў. Народ ужо навучыўся трэбаваць і браць тое, што яму па праву належыцца.

Штучна запынёны паток знаходзіць сабе дарогу *над запрудай*, падмывае яе і выбіваецца ізноў наверх. Так і нацыянальнае жыцьцё, сустракаючы перашкоды ў сваім нармальным разьвіцьці, пераходзе ў падпольле. І вось маем такія зьявішчы, як тайныя школы, тайныя, падпольныя часопісі...

Ажыўляецца правінцыя. Не даюць ходу Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радзе, што істнуе ў Вільні, — дык творацца мясцовыя рады ў Радашкавічах, Наваградку і інш. Зачыняюцца газэты ў Вільні, — затое пачынаюць выхадзіць у Горадні. Замаўкае „вялікая“ прэса, — дык бяруць голас беларускія студэнты. І, ня гледзячы ні на што, жыцьцё йдзе сваім ходам!

Народ жыве ўсё больш актыўна. Але, чым больш ён выяўляе самадзейнасьці, тым больш патрэбны яму пэўныя, годныя даверыя павадыры. Народ наш іх мае: Сам-жа ён выбраў іх у Сойм і Сэнат, выбраў не дзеля салодкіх гутарак, але на цяжкі, адказны труд. І беларускія дэпутаты верна стаяць пад тым сьцягам, пад якім ішлі ў часе выбараў.

Дык-жа гэта шмат каму не да спадобы. Народ, які мае добрых павадыроў, набірае ўдвая больш сілы і значэньня. Вось-жа ворагі яго стараюцца разьдзяліць народ і паслоў яго: за юдавы срыбнікі наймаюцца здраднікі, якія—па рэцэпту „сацыяліста“ Недзялковскага—гавораць самазванна ад імя народу праз галовы паслоў яго—і гавораць тое, што ім загадаў той, хто за гэта плоце...

І гэта—самае агіднае зьявішча апошняга году: гэныя платныя здраднікі, што сьвядома і з цынічнай усьмешкай запрадаюць свой народ ў няволю чужым...

Але дарэмна: раз народ збудзіўся, раз ён пачуў патрэбу волі, раз у ім магутным голасам загаварыла нацыянальнае пачуцьцё, — ён страхане ўсю гэную нягодную накіць з сваіх крэпкіх плечаў і моцнай рукой пакіруе сваё жыцьцё па дарозе Адраджэньня! Замест старых барацьбітаў, ужо зможаных жыцьцём, магутнай сьцяною ўстае нашая моладзь, аб якой так хораша пяе наш паэт:

Маладое пакаленьне,
Прачынайся! Час прыйшоў!
Залатое Адраджэньне
Кліча ўсіх пад родны схоў!

Дык „жывыя—ня трацьце надзеі!“ Бо ўжо тэй іскры жыцьця, што, перетрываўшы сталецьці, разгарэлася ў нашым народзе вялізарным полымем, ніякі ліхі вецер не зэтуша.

## Толькі з бою!

Старая гэта праўда, што ў палітыцы ніхто нікому нічога дарма не дае.

Асабліва ярка гэта выяўляецца ў адносінах да нацыянальнага пытаньня. Народ, які хоча жыць поўным нацыянальным жыцьцём, павінен ня толькі адваяваць права на гэткае жыцьцё, але і кожын дзень весьці бясспынную барацьбу за зьдзейсьненьне гэтага права: гнуснае бязьдзеяньне — гэта сьмерць для нацыі і адкрытая дарога для тых, хто цікуе на ўладу над ёю

Гісторыя будаваньня Радавае беларусі ў поўнай меры пацьвярджае гэта. Мы пазволім сабе прывесьці тут выметкі з раду палітычных актаў, якія лягли ў аснову Беларускае Сацыялістычнае Радавае Беларусі. Пры гэтым затрымаемся на адным мамэнце беларускага радавага дзяржаўнага будаўнцтва: на справе тэрыторыі Б.С.Р.Р.

Першым актам у гэтым кірунку зьяўляецца рэзалюцыя І-га зьезду „камун. партыі Беларускае Рэспублікі“, з 30-га сьнежня 1918 году, аб „абвяшчэньні Заходняе Камуны Беларускай Савецкай Рэспублікі“. Рэзалюцыя гэта гаворыць толькі аб тэрыторыі б. губэрняў Менскай, Горадзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай. Апублікаваны праз два дні „Маніфэст Часовага Работніча-Сялянскага Савецкага Правіцельства Беларусі“, з 1 студня 1919 году, зусім не гавора аб межах Беларусі. І гэта зразумела: тады радавая ўлада Р.С.Ф.С.Р. яшчэ стаўляла стаўку на Радавую Літву і хацела прывабіць яе... Віленшчынай, якую і выключыла з межаў Беларусі. Аднак, у жніўні 1920 году, калі чырвоныя войскі занялі Вільню, Горадню, Беласток і йшлі далей на Захад, зьявілася „Дэкларацыя“, падпісаная кам. партыяй Літвы і Беларусі, „Бундам“, беларускай камун. арганізацыяй і цантр. бюро прафсаюзаў Менску і Меншчыны, у якой на Захадзе дзяржаўная граніца Беларусі вызначаецца ўжо па лініі этнаграфічнае граніцы рассяленьня беларусаў.

Так справа выглядала... на паперы. А на дзеле ў склад Б.С.Р.Р. уваходзіла толькі шэсьць паветаў Меншчыны. І гэта ня толькі затым, што Заходняя Беларусь апынулася пад уладай Польшчы: бо-ж на ўсходзе ажно да канца мінулага году вялізарныя прасторы Беларускае зямлі былі пад радавай уладай, але ўладай не беларускай, а—маскоўскай...

Аднак, беларусы, маючы ўжо хоць невялічкі свой дзяржаўны цэнтр у Меншчыне, разьвівалі вялікую нацыянальную творчую працу. Перамагаючы ад царскіх часоў засеўшыя на Беларусі маскоўскія нацыяналістычныя і цанралістычныя элемэнты, Б. С. Р. Р. самым фактам свайго істнаваньня аказвала вялізарны ўплыў на адрэзаных ад нацыянальнага цэнтру ўсходніх братоў. І ўрэшце збуджаная сьвядомасьць беларускіх масаў знайшла сабе выхад у пастановах цэлага раду зьездаў саветаў Гомельшчыны (б. Магілёўшчыны) і Віцебшчыны аб далучэньні гэтых зямель да БСРР. А „пяты Усебеларускі Зьезд Саветаў“ адзначае ўжо афіцыяльна „значнае імкненьне рабочых і сялян значнай часьці Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ. арганічна злучыцца з Радавай Беларусьсю“.

Вынікам гэтага імкненьня і зьяўляецца пашырэньне межаў Б. С. Р. Р. на часьціны Віцеб-

шчыны, Гомельшчыны (Магілёўшчыны) і Смаленшчыны. Але **толькі** на часьціні: бо і сяньняшні прастор Радавае Беларусі ўсё ягчэ **далёкі ад тых межаў, якія былі абвешчаны ў першым акце дзяржаўнага будаўніцтва БССР**, прыведзеным намі напачатку,—ня кажучы ўжо аб тым, што ніводзін з разгледжаных актаў нават і **не ўспамінае аб беларускіх паветах Чарнігаўшчыны...**

Бязумоўна, нашым усходнім беларусам прыдзецца йшчэ доўга змагацца за поўнае зьдзейсьненьне хаця-бы таго, на што яны на Усходзе маюць права, на падставе апублікаваных ужо актаў. Гэта цяпер ужо справа нашае жыцьцёвае сілы, справа нашае здольнасьці і ўменьня дахадзіць свайго. Але гэта разам з тым і пацьверджаньне нашае думкі, высказаной напачатку, што свае нацыянальныя права беларускі народ, як і кожны іншы, заўсёды і ўсюды павіна **браць з бою.**

**К. Фалькевіч.**

# Рух сярод каталікоў.

Аб тым, як пашыраецца беларускі нацыянальны рух сярод нашых каталікоў у Заходняй Беларусі, хоць іх польскі ўрад ужо даўно залічаў да „палякоў“,—сьведчыць гэткі абразок з Жодзішак, Сьвянцянскага пав.

Жодзіскі пробашч, кс. Гадлеўскі, 7 верасьня с. г. распачаў гаварыць казаньні пабеларуску. Гэта зрабіла вялізарнае ўражаньне на народ. Вось, як апісвае гэта карэспандэнт газэты „Кгупіса“:

„Народ зацікавіўся, аж пацісьнуўся бліжэй да амбоны“. Усе ў касьцелі неяк ажывіліся; нават старыя бабулькі, каторыя любяць у касьцеле здрамнуць, прысеўшы дзе ў куточку, і тыя наставілі вушы і, падняўшы галаву, выслухалі тэй навукі, ня спусьціўшы вока з ксяндза. Відаць было па ўсіх, што ў касьцеле дзеіцца нешта важнае, што „тым, каторыя сядзелі ў цемнаце, паказалась яснасьць“. Толькі тры чалавекі вышлі з касьцёла: двух амэрыканаў, купіўшых сабе зямлю, і адзін гмінны пісарчук. Гэты-ж апошні пабег і клікнуў паліцыю. На яго кліч прыбегла трох паліцыянтаў: што-ж, пастаялі, паслухалі і пашлі назад. Пасьля сьпісалі пратакол (як самі хваліліся) і паслалі ў Сьвянцяны.

„Вестка аб беларускай навуцы са скорасьцю маланкі абляцела ўсю парахвію, а нават блізкія вёскі суседніх парахвіяў. На другі дзень, г. ё. на Гаспожку, народ паваліў у касьцёл валам. Прышлі нават паны, каторыя ў касьцёл наагул ходзяць вельмі рэдка. Пробашч ізноў пачынае беларускую навуку. Адна пані вышла, па дарозе цягнула свайго сына, але той астаўся і ўжо па казаньні выйшаў. З тэй паняй вышла трох чалавек—багацейшых мужыкоў, каторыя ў хаце гавораць пабеларуску; значыць разам на Гаспожку вышла чалавекі чатыры. Усё гэта добра відзелі нашыя хлопцы з хораў.

„Тады пробашч, мусіць ведаючы, што ёсьць такія людзі, каторым беларуская мова не падабаецца, скончыўшы казаньне, сказаў так: тыя людзі, каторым не падабаецца беларуская мова, а каторыя хацелі-б чуць Божае слова папольску, няхай зьбяруць падпісы, калі знайдзецца хоць сто асаб, каторыя хочуць польскай навукі,—пробашч будзе што-нядзелі гаварыць і пабеларуску і папольску.

„Тут трэба ўспомніць, што наш пробашч, перад тым, як пачаць беларускую навуку, добра выпытаў у людзей, як яны ўглядаюцца на беларускую мову—ці ўважаюць яе за сваю родную і хочуць яе, ці не? Адказ быў ад людзей такі, што, з малымі выняткамі, уся парахвія — беларуская і што людзі сваею роднаю моваю не ганьбуюць. Але зьбіраць падпісы за беларускія казаньні не адважыўся першы ніхто, бо залічаць за агітатара і загоняць туды, куды Макар цялят не ганяў. Сказалі, што няхай палякі зьбіраюць падпісы—ім гэта лягчэй...

„Дык пачалі нашыя палякі зьбіраць падпісы. Разбегліся па ўсіх вёсках, а да далейшых запрагалі сваіх сытых жарабцоў і ехалі зьбіраць падпісы. Па розных вёсках розна іх прыймалі, але наагул адказваліся падпісвацца. Тады яны пусьціліся на хітрасьць і нават правакацыю — прыходзяць у хату і пытаюцца: каго хочаце—папа, ці ксяндза? Ведама, людзі кажуць: на што нам поп!—Ну так пішыся на ксяндза?—той і пісаўся. Гэтак было ў вёсцы Андрэеўцах і Капачох. Або ізноў пыталі: Куды хочаш—пад Польшч, ці пад Беларусь? Чалавек думае: скажу пад Беларусь — бяда будзе, пішы пад Польшч,—кажа чалавек! Пісалі і таго. Пісалі ўсіх: жонку, дзяцей, ад малога да вялікага, словам, усіх, хто быў у хаце. Разам назьбіралі ўсяго (ну згадайце сколькі?) каля (200) двохсот падпісаў. Як на парахвію, дзе 3.300 душ, гэта малавата!

„І то гэтыя падпісы былі здабыты хітрасьцю. Кажуць: няпраўдаю сьвет пройдзеш, але назад ня вернешся. Таксама было і тут. Людзі, даведаўшыся аб усім, прыходзілі, каб зьняць свае падпісы; а адна кабета з Сырватак дык да позьняе ночы сачыла тых „палякоў“, калі яны будуць вяртацца дамоў, каб зьняць свой падпіс. А па другіх вёсках, даведаўшыся аб тых хітрыках, дык проста гналі іх вон да таго, што ў Паніжанах адзін „паляк“, уцякаючы, згубіў свой капялюш! А ў Расла баяліся нават і паказвацца, бо Расьляне заявілі, проста з мосту, што, „калі прыедуць, будзе дрэнна“.

„Ізноў-жа цікавая рэч, што падпісваліся тыя, каторыя жывуць у моцнай залежнасьці ад паноў. І так—за польскія казаньні падпісаўся родны дзядзька Кс. Андр. Цікоты, вядомага беларуса, Ігнась Цікота—малазямельны, каторы збаяўся, што пры панскім двары можа страціць пашу для быдла!..

„Наша ўзяла верх над прақананьнем! А ці мала такіх? Ці мала людзей, каторыя прадаюць свае прақананьні за місачку сачэўкі? І хаця клянуць у душы і пана і яго пашу, але нічога не парадзіш—паша і зямелька бярэ верх!

Бывалі выпадкі такія, што гаспадары, відзячы праз вакно, што ўжо ідуць запісваць на польскія казаньні,—а ня хочучы страціць ласкі ў паноў,—лезьлі на печ, або хаваліся ў варыўню, або ў пограб, а ўжо жонка або дзеці апраўдываліся, што няма гаспадара дома, дык яны самі ня ведаюць, што рабіць. Вот што значыць эканамічная залежнасьць!

„Але расказваюць яшчэ горшыя рэчы, бо запісвалі такіх, каторых і ў вочы ня відзелі, а так толькі, „па знаёмасьці“. Так, напрыклад, запісалі Караля з Эйцьвіл, зусім яго ня пытаючыся, і цяпер той чалавек сам ня ведае, што рабіць? Кляне толькі тых ашуканцаў і правакатараў. І такія слухі ідуць з розных бакоў. Вот якія былі падпісы!

„А на пробашча пры зьбіраньні падпісаў вычваралі розныя рэчы: што хоча быць папом, што хоча прыняць праваслаўе, што хоча заводзіць унію, што думае жаніцца і г. д. Найбольш брахалі пры гэтым Шнэра з Працут і Санюк з Пагарья. Ім памагалі меншыя сабачкі. Дзеля гэтага, што падпісы былі сабраны такімі гадкімі спосабамі, правакацыяй і ашуканствам, наш пробашч тых падпісаў ня прызнаў, сказаў пры гэтым, што няхай тыя падпісы шлюць у Вільню да вышэйшага начальства, няхай начальства прысылае сьледзтва, і тады пакажацца, хто хоча навукі польскае, а хто беларускае! Сваей павагай пробашч нічога ня хоча пастанаўляць; цяпер гаворыць так, як вымагае большасьць парахвіі, а для меншасьці, — для гэтай жменькі „палякоў“ — няхай пастановіць нехта вышэйшы і са стараны, бо інакш будзе выглядаць, што пробашч для „палякоў“ быў несправядлівы.

„Што яны зрабілі з гэтымі падпісамі — няма ведама. Адны кажуць, што паслалі ў Сьвянцяны, другія, што да Дэлегата Жонду ў Вільню; трэція, што да Біскупа. Бог іх ведае! Адно толькі нам ведама, што мы ўжо маем беларускія казаньні, што дачакаліся шчасьлівейшае гадзіны хоць у касьцеле. Дзякуй Богу, ужо і нашая мова пашла ў людзі, дык можа часам і для нас наступіць сьвятлейшы дзянёчак і лепшая доля!“.

Як бачым, сярод нашых каталікоў рух беларускі шырыцца вельмі паважна. І мы глыбока перакананы, што, ня гледзячы на ўсе тыя загарадкі, якімі стараюцца дзяліць беларускі народ „польскія“ ксяндзы і „маскоўскія“ бацюшкі, пачуцьцё нацыянальнае і сацыяльнае еднасьці беларусаў каталікоў і праваслаўных, сяброў аднае многаміліённае сярмяжнае грамады, пераможа ўсе гэныя загарадкі і павядзе ўсіх беларусаў да адзінага вызвольнага ідэалу.

# Зьезд настаўнікаў-беларусаў Т-ва „Прасьвета“.

Валэйшаўскае Т-ва „Прасьвета“., у сьпешным парадку зацьверджанае польскім урадам, склікала на 18—19 сьнежня ў Вільні зьезд беларускіх настаўнікаў. Аднак, склад гэтага зьезду быў загадзя ўложаны так, каб валэйшаўская партыя мела большасьць. Дзеля гэтага сябрамі зьезду з правам голасу аказаліся чуць, што ня ўсе сябры знамянітае „грамадзянскае“ шулерні: Валэйша, Більдзюкевіч, Паўлюкевіч, Шышков і т. п., каб надаць адпаведны палітычны кірунак, а іменна: зрабіць від, быццам беларускае вучыцельства — процi сваіх паслоў у Сойме і Сэнаце. Вось чаму на зьезд аказаліся **прывезенымі** агентамі Валэйшы ўсяго толькі каля 50 вучыцялёў, у „вернасьці“ каторых агентура Валэйшы не сумлявалася. І гэтыя людзі адважыліся запраўды прамаўляць ад імя многіх сотняў беларускіх настаўнікаў, пазбаўленых — пасьля ліквідацыі ўрадам беларускіх школ, працы і хлеба.

Ужо на першым засяданьні зьезду выявілася ўся хітра задуманая справа, што і давяло зьезд да развалу: група вучыцялёў, якія не знаходзіліся ў грашовай залежнасьці ад арганізатараў зьезду, пакінула дэманстрацыйна салю паседжаньняў і адмовілася ад далейшага супрацоўніцтва з валэйшаўскімі выбранцамі.

Справаздачу з гэтага першага паседжаньня зьезду і яго развалу падаем ніжэй.

А 5 гадз. старшыня тав. „Прасьвета“, „знамяніты“ Косьцевіч, адчыніў зьезд кароткаю прамовай, у каторай абрысаваў (—нават ён!) надта сумнае палажэньне беларускае школы, адначасна падкрэсьліваючы, што наступіў мамэнт, калі, як яму здаецца, таварыству „Прасьвета“ ўдасцца дабіцца ад польскагаУраду паляпшэньня гэтае справы

Пасьля было запрапанована сходу выбраць старшыню і прэзыдыум. Аднагалосна ўсім сходам старшынёю быў выбраны Дыр. Віл. Бел. Гімназіі

# „Нясьмелы віхор“.

## Паэзія Уладзімера Жылкі.

(*„Уяўленьне“ 1923 г.—„На ростані“ 1924 г.*).

„Агневае спробы ня цурайцеся“...

*Апостал.*

Мае нейкую нязвычайную, захопліваючую цікаўнасьць сачыць і ізучаць, як адбіваюцца ўсе варункі і абставіны, усе формы, рухі і імкненьні грамадзкага жыцьця, усе об‘ектыўныя факты жыцьця грамады—у люстры паэтычных абразоў выдатна-творчае адзінкі.

У гэтым індывідуальным люстры паэта ўсё тое, што мы пазнаем з газэтаў і кніжак, з палітыкі ці статыстыкі, з фактаў і лічбаў, мы знаходзім адбітым, уложаным і арганічна пeратвораным так, што яно падпарадкавуецца найвышэйшай цэннасьці на зямлі, якой зьяўляецца жывы чалавек.

Вось дзеля чаго ўсялякае знаньне, усялякую палітыку трэба аканчальна правяраць паэзіяй... І асаблівую цікавасьць для нас мае дасьлед таго, як у заходня-беларускай паэтычнай індывідуальнай **адзінцы** адбіваецца і ўсваяецца ўсё тое вольнае, **стыхійна**-сацыяльнае жыцьцё Усходу.

---

Водгукамі гэтага ўсходняга жыцьця, можна сказаць, толькі і жыве і гучыць і зьвініць яшчэ дзіцяча-нясмелая лера Уладзімера Жылкі...

Яшчэ ранейшы за расейскую рэвалюцыю і беларускае адраджэньне магутны рэвалюцыйны **віхор**, бушаваўшы **ў расейскай** паэзыі, — захапіў, **адарваў ад зямлі і закруціў** у сваіх новых рытмах маладую душу паэта.

Адсюль—рытмамі, гукамі і абразамі Тютчэва, Бальмонта, Блока, Гарадецкага, ня кажучы ўжо аб іншых малодшых і меншых, напоўнена, запраўды насычаная музыкальнасьцю, творчасьць песьняра...

Але характэрны для расейскага сьвету нігілістычны бунт проці бацькоў і бацькаўшчыны, — захапіў да канца яго па заходняму дысцыплінаваную душу: беларускі пясьняр благагавейна спыняе свой рэвалюцыйны віхор там, дзе пачынаецца яго Маці, яго Бацькаўшчына. — **Рэвалюцыя зьмяняецца ў Адраджджэньне.** Крывавая помста ператвараецца ў радасьць, у трыумф.

Радасьць і ёсьць першае слова, якой пачынаецца першая кніжачка вершаў паэта:

Радасьць мая вялікодная —
Сына, пазнаўшага Маць...

Помста перад усім зьніштажае,— радасьць перад усім абдарае...

Песьняй прадвесьня лагоднаю
Усіх я пачну абдарадь... —
. . . . . . . . . . . . .
Сэрцы пратну зараніцаю
Новых надходзячых дзён;
Выпішу сказ бліскавіцаю
**Выяўлю дзедаўскі сон.**
Гэй, гаруны *) і бядулі *), і сумныя,
Ваш гэта чуецца плач? —
Годзэ! бяседа ў нас шумная —
У хаце сялянскай багач!

Так пачаў Уладзімер Жылка, паэт **ужо ператварыўшаеся з помсты ў радасьць Рэвалюцыі.**

Вялікая сялянская рэвалюцыя на Усходзе дапяла мэты: у хаце сялянскай багач, і селянін—пан свайго жыцьця...

Вось аснаўны тон і зьмест „Уяўленьня“...

*) Вядомыя псэуданімы беларускіх песьняроў.

„Бель“ — гэта знача сацыяльна-эканамічная воля і палітычная незалежнасьць Беларусі — вось падстава новай радасьці сына гэтай Маці, і гэтай радасьцю ён хоча абдарыць усіх...

„Будзьма вясёлымі; бель яе
„Неба аздобіць блакіт!“

---

Запраўды,
Радасьць — рацыя: —
Бацькаўшчына Беларусь
Есьць
Наймалодшая нацыя“. —

— кажа паэт вольнымі вершамі, насьлядуючы манеру Маякоўскага.

Той-жа верш яскрава і вобразна кажа аб характэрным для паэта **ператварэньні** рэвалюцыі на Беларусі ў Адраджэньне!

Пяруны завірух (расейскіх!)
У захапленьні
Грымяць аб адным (у Беларусі):
Паўнагучна: Адраджэньне!

Рэвалюцыя, „пяруны завірух“ для У. Жылкі—перад усім „выяўленьне дзедаўскага сну“ і ўваскрашэньне:

Наш Дух,
Даючы рух,
Жыцьцё,
Праз крыўду, зьдзекі
І забыцьцё,
З прадвеку,
З гадоў старых
Быў захаваны...
І вось—нязнаны
Сягнуў тварыць!
І з першых дзён
Змог сну палон
І ночы глуш,

Р. Астроўскі, не зважаючы на яго катагарычную адмову. Заняўшы мейсца старшыні, Р. Астроўскі яшчэ раз зьвярнуўся да зьезду з просьбаю звольніць яго ад гэтага абавязку і з свайго боку запрапанаваў выбраць старшынею каго-небудзь другога. Тады быў выбраны наступны прэзідыум: старшыня Паўлюкевіч, віцэ-старш. Астроўскі і Косьцевіч, сябры прэз. Якімовіч і Кернажыцкі і сэкратары: Заморын і Чыжэвіч. Пасьля выбараў прэзідыума і прывітаньня зьезду старшынёй яго Павлюкевічам, дадзена было слова для прывітаньня прадстаўніку Віл. Бел. Гімназіі, ад імя якое Р. Астроўскі сказаў:

„Паважаныя калегі і грамадзяне! Вітаю Вас ад імя старэйшае ў Польшчы беларускае школы—Віленскае Беларускае Гімназіі. Вітаю Вас ад імя тых беларускіх вучыцялёў, якія ведаючы несьцярпіма цяжкое палажэньне сваіх калегаў на вёсцы яшчэ ў жніўні месяцы зьвярнуліся да Таварыства беларускае школы ў Вільні з просьбай з'арганізаваць на падставе новых языковых уставаў беларускія вучыцельскія курсы, каб гэтым самым памагчы сваім вясковым братом, але нажаль зьдзейсьніць гэтага ня ўдалося і відаць ня ўдасцца. Урадовая школьная ўлада дасюль дазволу на гэтыя курсы не дала да, як чуваць, і ня дасьць. Можа новае таварыства Прасьвета будзе шчасьлівейшае, бо бачу, што яму ня толькі далі магчымасьць склікаць сёньняшні зьезд, але сама ўрадовая школьная ўлада дапамагае ў гэтым, што праўда гэта тая самая ўлада, якая яшчэ так нядаўна адзначылася тым, што зьліквідавала абсолютна ўсе беларускія школы ў Віленшчыне, зачыняючы больш як 200 беларускіх школ у працягу 2-х месяцаў.

„Думаю аднак, што Беларускі настаўнік прыехаў сюды не для таго, каб дапамагчы нашым старанным апякуном зьліквідаваць тую працу, якую ўжо ад трох месяцаў вядзе так энэргічна і бясстрашна наш беларускі вучыцель, адчыняючы прыватныя як яўныя, так і тайныя школы.

„Маю надзею, што беларускі настаўнік ня здрадзіць свайго народу і, з'арганізаваўшыся у магутную адналітую вучыцельскую сям'ю, бясстрашна падасьць тут голас беларускага народу, як запраўднага і зпрадвечнага гаспадара гэтай зямлі, жадаючы ад тых, ад каго гэта залежыць, сумленна выканаць прынамся закон аб беларускай школе.

„Прыймаючы пад увагу, што выразнае права на родную школу задэкляраванае беларускаму народу Польскім соймам, зьявілася, як рэзультат стойкае барацьбы за беларускую школу нашага Беларуска Пасольскага Клюбу з аднаго боку і тых нялічных адзінак польскае дэмакратыі, якія адважыліся прыпадняць гэта хаўтурна чорнае пакрывала, заслаўшае ўвесь абшар Заходняе Беларусі, з другога,—я прапаную ад імя сёньняшняга зьезду паслаць дзьве тэлеграмы, адну віцэ-старшыні Рады міністраў п. Тугутту, а другую Беларускаму Пасольскаму Клюбу—наступнага зьместу:

**Варшава, Рада Міністраў. Віцэ-старшыня Тугутт.**

Зьезд настаўнікаў-беларусаў, скліканы таварыствам „Прасьвета“ ў Вільні 18 гэтага сьнежня, прыймаючы пад увагу нецярпіма-цяжкое палажэньне беларускае школы і гвалтоўнае навязаньне беларускаму народу школы ў польскай мове, што пярэчыць так званым языковым уставам аб школах, зварачваецца да пана міністра, як тварца гэтых законаў, з заклікам правясьці іх безадкладна ў жыцьцё ў поўнай меры.

Прэзыдыум зьезду.

**Варшава, Сойм. Старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу.**

Зьезд настаўнікаў-беларусаў, скліканы таварыствам „Прасьвета“ ў Вільні 18 гэтага сьнежня, шле падзяку Беларускаму Пасольскаму Клюбу за яго стойкую барацьбу за беларускую школу, даўшую ў выніку Беларускаму народу языковыя законы і права на школу ў роднай матчынай мове, адначасна заклікаючы Беларускіх паслоў дабіцца ад Польскага Ураду правядзеньня гэтых законаў у жыцьцё.

Пасьля прамовы Р. Астроўскага распачалася дыскусія ў справе пасылкі запрапанаваных тэлеграмаў, у якой прынялі ўчасьце: Косьцевіч, Більдзюкевіч, Паўлюкевіч, Савіцкі і Астроўскі. Першыя трох катэгарычна пратэставалі проці пасылкі дэпэшы Бел. Пасольск. Клюбу, а матывуючы гэта, паміж іншым, тым, што, калі-б сход прыняў прапазіцыю гр. Астроўскага, то гэтым самым наклікаў-бы гнеў улады і не дабіўся-бы ніякага паляпшэньня, а, наадварот, пагоршыўбы сучаснае палажэньне.

Грам. Савіцкі, адказуючы папярэднім прамоўцам, сказаў:

„Паважаныя грамадзяне і грамадзянкі, мне хацелася-б стушаваць той дысананс, які ўнясьлі папярэднія прамоўцы ў чакаючую нас працу. Мне здаецца, мы сюды зьявіліся не для палітычных спрэчак, не для крытыкі дзеяльнасьці бел. клюбу, ці якіх-небудзь іншых палітычных партыяў, а дзеля таго, каб тварыць беларускую школу. Справа гэта надта патрэбная, але і надта цяжкая. Цяжкая яна таму, што мы маем шмат адусюль перашкодаў. І вось, каб перамагчы гэтыя перашкоды, мы павінны стварыць адзіны магутны фронт, які-б сваім напорам прарваў вал гэтых перашкодаў. Фронт гэты, выключна, магчымы толькі з Бел. Пас. Клюбам, адзіным праўным прадстаўніком і шчырым абаронцам нашага працоўнага народу і, між іншым, нашае нацыянальнае школы. Ен і толькі ён сьмела і моцна заявіў на ўсю Польшчу і Эўропу аб тым, што ёсьць Беларускі Народ, што ён шукае сваіх правоў і што за гэтыя правы Беларускі Пасольскі Клюб змагаўся, змагаецца і будзе змагацца. Як вынік гэтага змаганьня, грамадзяне, мы маем гэтыя, хаця і нездаваляючыя нас, языковыя законы, але ўсё-ж-ткі яны зьяўляюцца крокам уперад на шляху разьвязаньня пытаньня аб нашай школе. Але і гэтыя куцыя законы, як мы бачым, не праводзяцца ў жыцьцё; і вось я падкрэсьліваю, што мы павінны паслаць тэлеграму Беларускаму Пасольскаму Клюбу, бо пасылкай падзякі Клюбу мы дадзём маральнае падтрыманьне яму ў ягоным змаганьні за правядзеньне ў жыцьцё гэтых законаў і лішні раз перад усімі рашуча пакажам, што ў сваіх імкненьнях мы, беларусы, адзінае цела і душа“.

Грам. Астроўскі, матывуючы неабходнасьць пасылкі тэлеграмы Бел. Пас. Клюбу, сказаў:

„Мяне дзівіць тое, што нават тыя, хто так баіцца паслаць падзяку Бел. Пас. Клюбу, самі падкрэсьліваюць яго выдатную ролю ў паяўленьні на сьвет языковых уставаў. Дзівіць мяне моцна, чаму пасылка дэпэшы п. Тугутту не ўважаецца маімі праціўнікамі за „палітыканства“, пасылка-ж дэпэшы Бел. Пас. Клюбу так страшыць іх, як нейкі „дывэрсыйны акт“. Я асабіста не належу, а ні да тэй палітычнай групы, на чале, якой стаіць Бел. Пас. Клюб, ані да тэй, на чале якой стаіць т.-з. „Грамадзянскае Сабраньне“. Я культурны працаўнік і прыйшоў сюды зусім шчыра будаваць беларускую школу, але, даруйце, я не магу згадзіцца з тым, каб, пасылаючы тэлеграму мін. Тугутту, адначасна не паслаць тэлеграмы тым, хто фактычна сваею стойкаю барацьбой выклікаў стварэньне т. з. „Языковых Уставаў“. Для мяне зусім незразумела, чаму кожнае шчырае нацыянальнае беларускае імкненьне разглядаецца, як нейкая дзяржаўная акцыя. Я не разумею, чаму імкненьне беларускага народу злучыць разарваныя Беларускія Землі разглядаецца, як акт адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы, а не наадварот — не як далучэньне Усходняе да Заходняй. Хто-ж вінаваты ў тым, што дагэтуль у Заход. Беларусі ня створаны такія варункі эканамічнага і палітычнага жыцьця, каб нашы браты з Усходу імкнуліся да злучэньня з намі?! У імкненьні разарванага цела Беларусі я зусім ня бачу нейкага „дывэрсыйнага акту“, і мне, як грамадзяніну Польскае Рэспублікі, ніхто гэтага закіду зрабіць ня можа.

„Але трэба мець на ўвазе, што я, будучы зусім лёяльным грамадзянінам польскае рэспублікі, адначасна зьяўляюся **беларусам** і, як такі, безумоўна не магу здрадзіць свайго народу. Я не магу ісьці разам з тымі, хто глядзіць на языковыя ўставы, як на сродак успакаеньня заграніцы. Я добра памятую тыя словы другога тварца языковых уставаў: п. Станіслава Грабскага, які на лекцыі сваей тут, у Вільні, калі не памыляюся, 3 ці 4 жніўня публічна заявіў, што языковыя ўставы — гэта быў неабходны акт, дзеля папраўленьня апініі Польшчы заграніцай. Я не забыўся тых слоў „успакаеньня“, сказаных гэтым тварцом языковых уставаў, калі ён гаварыў, што палякам баяцца іх няма чаго, што шляхам міністэрскіх распараджэньняў іх можна будзе правадзіць у жыцьцё так, што гэта зусім не перашкодзіць асыміляцыі і дэнацыяналізацыі беларускага народу.

„Дык вось, прыймаючы пад увагу ўсё гэтае, а таксама і тое, што я, як стары вучыцель, добра ведаю, душу дзіцяці, ведаю, што яна, фактычна, зьяўляецца воскам, пры лепцы якога застаюцца найменшыя адпячаткі пальцаў, — я, кажу, не магу згадзіцца на нейкія сурагаты беларускае школы, як гэта хоча зрабіць польская ўлада і, як відаць, тыя „тоже Бѣлоруссы“, якім улада так памагае. Я не магу згадзіцца на тое, каб беларуск. школы былі беларускімі толькі па вывесцы, а фактычна — гэта будзе тая самая польская школа, на чале якой будзе стаяць нейкі галілейскі паляк, ды будзе калечыць душу беларускага дзіцяці. Калі мае быць такі сурагат, то лепей няхай яго ня будзе. Я не магу згадзіцца з тым, каб для беларуск. вучыцеля, які хоча атрымаць т. з. кваліфікацыі, не знайшлося мейсца на яго роднай зямлі, і каб яго высылалі з роднага краю ў нейкія „Bydgoszcy“ ды „Krakawy“.

„Прымаючы пад увагу, што Бел. Пас. Клюб, як я ўжо гаварыў у сваім прывітаньні, сваей стойкаю барацьбой можа даў нам магчымасьць на сягоньняшнім зьезьдзе гаварыць пабеларуску, — я не магу за гэта атплачываць яму чорнаю няўдзячнасьцю і дзеля гэтага падтрымліваю сваю прапазіцыю аб пасылцы дэпэшы“.

Каб яшчэ мацней запужаць забітага беларускага вучыцеля, які прыехаў на зьезд, шукаючы сваей роднай школы, мала, як відаць, было пагрозаў Павлюкевіча арыштамі і надта сумнымі вынікамі. Калі дайшло да галасаваньня, віцэ-старшыня зьезду, вядомы Косьцевіч, на жаданьне сходу галасаваць тайна, запрапанаваў паіменнае галасаваньне, вынікам якога было тое, што **проціў** пасланьня дэпэшы была, фактычна, **меншая частка**, бо ўсяго 41 голас, (у тым ліку ўсе невучыцялі з Грам. Саб.), за пасланьне — 15, а 30 устрымалася ад падачы свайго голасу, — ёсьць ведама, дзеля таго, каб не папасьці ў сьпіскі дэфэнзывы і ня быць пазбаўленымі грошы ад пана Павлюкевіча на дарогу да хаты...

Пасьля такіх вынікаў галасаваньня віцэ-старшыня сходу Р. Астроўскі, узяўшы слова, заявіў, што пасьля гэтага ён, ня хочучы браць на сябе

---

Мужычых душ
Зьявіў красу
І бель...

---

Вось яшчэ яркі прыклад, як выглядае пасьля перамогі грозная рэальнасьць запраўднай рэвалюцыі:

Мячы маланак пелі
І навальніцы йшлі,
І гром вясьняны хмелем
Паіў абшар зямлі...

Але-ж гэтае ўсё, гэтая перамога—„там“.
Там—ужо **дажынкі**.
Тут, у нас—яшчэ толькі **сяўба**...
Вось паслухайце.

Нашая ніва.
Сейбіт зары
Сее маўкліва
Сум аб дабры.
Жменяю семя,
Дужы узмах.
У золаку дрэме
Сонечны шлях.
Дзевы-дзяньніцы
Кленчаць на ўсход (!)...
У кроплях расіцы—
Буйны ўмалот.

Усюды прароцтвы...
Хто-ж іх пайме?
Розум—убожства
Верыць зіме.
Вецер сьлязьліва
Уторыць яму;
Лозы жахліва
Вяжуць думу.
Толькі бяз меры
Сьлёзы чаму?
Хто у зьняверы
Плача на цьму?—
Мудрасьцю сівы
Сейбіт зары
Сее на нівы
Сум аб дабры.
Узыдуць зярняты—
Ліху канец.
Весткі крылатай
Жду—пасланец!

Скуль-жа гэтая вера ў пасланца? Зразумела, з таго дасьледу, які зрабіў народ за апошняе дзесяцілецьце.

Дарма свае сілы
Зьбірае зіма—
У друзгах няміла
„Народаў турма“...
Пракляцьце. „Расея“
Прапала навек —
Ня страшыць завея
Блiскучых павек.

Так было... Але так і будзе з усялякай іншай „турмой народаў“, якая захоча пасьледаваць мэтам і слову нябожчыцы...

І гэта—тым пэўней, што ўжо

Шырокаю трапой
У час гэты з пакус
На ману Эўропы
Узыйшоў Беларус...

Узыйшоў—і ня зыйдзе, бо далёка-сягаючы, хаця ў нашага паэта такі асьцярожна і культурна-нясьмелы, такі характэрны для яго паэзіі „віхар“ ужо „зламаў браму ў рай“—і рай беларускі...

У крывіцкіх вёсках
Узьняўся гуд
І ў адгалосках
Зрастае цуд“...

Маленечкая, але наскрозь перасычаная жывым, захапляючым і ўздымаючым **віхрам** кніжачка **Ул.** Жылкі канчаецца трагічным засланым „сьлёзным туманам“ дзіцячых вачэй, абразам „падзелу“.

Па **беламу** целу
Знакам ад нажа
Крывавіць мяжа...
І кажуць прапасьці...
. . . . . . . . . . .
Толькі—не!
Не пазбыць—
Ня міне,
Чаму быць...

Так

Голас яе
Бурай пяе...
Хто гэта яна?—
—„О, як сэрцу салодка маліцца—
Беларусь, Беларусь, Беларусь“!..

„На ростані“ — вялікшы зборнік у паўсотні старонак, больш разнароднага зьместу. Паэт — яшчэ пад уладай сваіх „валадароў“ — расейцаў, але хоча і імкнецца—праз асабістае „спатканьне з Эросам“ выйсьці на нейкі новы—уласны шлях...

Паэта вабяць і клічуць новыя „прывабныя далі“... паэт—на ростані. Але тое, чым ён скончыў першы спыток, чым пачаў новы: Беларусь,—відаць, будзе ў гэтых новых „далях“ душэўным цэнтрам паэта, хаця яго душа ўзбагачываецца водгукамі антычнага сьвету—Грэцыі і Рыму, — а таксама польскай і замежнай паэзіі.

---

Адраджэньне Беларусі—факт, заклікаючы да найвялікшай ахвярнай адказнасьці суменна-грамадзкую душу паэта.

„Беларусь, Беларусь—гэты зык
„Паліць душу маю, як вагнём“...

„Магутны і тужлівы зоў“ гэтага вялікага

адказнасьці і ня маючы адвагі гаварыць ад імя беларускага народу праз галовы праўных яго прадстаўнікоў — дэпутатаў Бел. Пас. Клюбу, — ён змушаны пакінуць сход.

За гр. Астроўскім узяў голас сэкратар прэзыдыуму, гр. Заморын, які сказаў, што, будучы салідарным у паглядах з тымі, хто меў адвагу адкрыта і рашуча падаць свой голас за пасылку падзякі Бел. Пас. Клюбу, лічыць для сябе ганебным заставацца далей на гэтым пашанным мейсцы, — і, разам з групай 15 чал., якія не знаходзіліся ў грашовай залежнасьці ад арганізатараў зьезду, пакінуў салю.

Выхадам з Зьезду палітычна сьвядомых і матар'яльна незалежных ад арганізатараў яго 15 вучыцялёў скарысталася кампанія Валэйшы, каб правясьці—пры палахлівым маўчаньні прывезеных з вёскі і стэрарызаваных настаўнікаў — тэлеграму на імя маршалка Сойму, зьмяшчаючую ў сабе выступленьне проці беларускіх паслоў. І гэта была адна—адзіная „ўдача“ валэйшаўскае „Прасьветы“.

---

Другі дзень пачаўся таксама „ўдачай“ для лякайскае палітыкі Валэйшаў, Косьцевічаў і Паўлюкевічаў, якія з'арганізавалі „owacyjne“ спатканьне „дабрадзею“ беларускага народу — віленскаму куратару п. Гонсёровскаму, які „заслужыўся“ беларусам тым, што пазачыняў у сваім вокрузе ўсе беларускія народныя школы (апрача аднае: у Вільні!), пазбавіў віленскую беларускую гімназію ўрадовае дапамогі і правоў, зачыніўшы гэтым яе вучням доступ у вышэйшыя школы Польшчы. Але гэтая „owacyja“ заклятаму ворагу беларускае школы, відаць, працьвярэзіла ўрэшце і вясковых настаўнікаў, якія—пасьля дазнаных на Зьезьдзе ўніжэньняў іх нацыянальнага пачуцьця,—выявілі сваі запраўдныя настроі ў рэзалюцыі ў школьнай справе, якую тут падаем у перакладзе з „Dzien. Wil.“:

„З прычы таго, што польскія ўлады не адчыняюць беларускіх школ, а істнучыя школы ператвараюць у польскія, супраць волі народу, што прыватныя школы ўладамі ліквідуюцца, што польскія школы ў межах Заходняе Беларусі зусім не здаваляюць патрэбаў насяленьня, што кары за непасылку беларускіх дзяцей у польскія школы спаганяюцца ў той самы час, як народу адмаўляюць адчыняньня беларускіх школ, і што, хоць беларускае настаўніцтва ня зусім выкваліфікавана, але ў беларускай мове істнуюць падручнікі, датарнаваныя да ўсіх вымаганьняў навукі,—зьезд трэбуе здаваленьня ягоных дамаганьняў і адкрыцьця вучыцельскіх курсаў, якія падгатавалі-бы ў працягу лета 1925 году кадр вучыцялёў для беларускіх школ“.

У іншых рэзалюцыях зьезд высказаўся за арганізацыю пакуль-што прыватных школаў, а такжа за друкаваньне падручнікаў „гражданкай“.

Такім чынам **перамога аказалася бясспрэчна на старане беларускае апазіцыі і Беларускага Пасольскага Клюбу**: зьезд, хаця—пад націскам валэйшаўскае групы—і выступіў проці беларускіх паслоў, аднак, **прыняў усю іх школьную праграму**, абвешчаную з соймавае трыбуны і праводжаную Беларускай Цэнтральнай Школьнай Радай.

---

# Песьні на чужыне.

## *К Р А Й.*

Сонца заходзіць... На вежах кляшторных
У шклах запаляюцца тысячы зорных
Ярка—чырвоных агнёў...
Хараша... Марыцца... Сэрца імкнецца
Ў край, што яшчэ прыгажэйшым здаецца,
Сумны, а родны ізноў.
Там... там усё быццам так, а іначай
Хваляю ў сэрца ліецца гарачай,
Там, там усё прыгажэй:
Сіняе, сіняе неба бяз конца,
Смутна—вясёлае, яснае сонца,
Далі бязьмежных палей.
Там... Там у гожыя, цёплыя ранкі
Песьняю срэбнай вітаюць жаўранкі
Першыя праблескі дня,
Песьняю будзяць ціхія лагчыны
Гдзе яшчэ пасам густым, цёмна-сінім
Сонна калышыцца ймгла.
Сонца там росы усьмешкаю сушыць,
Вецер там кветкі ласкае, варушыць,
Кветкі ў шырокіх лугох.
Хвойкаў там шумам шумяць верхавіны,
Дзіўна-жахліва трапочуць асіны
Ў цёмных, зяленых барох...
Бор там... Магутныя сосны асілкі,
Белы бярэзьнік, высокі, а хілкі,
Ягаднік, мох між сасон...
Цёмныя, поўныя страхаў гушчары,
Байкі сасоньніку—лесныя чары,
Птушкаў пад веткамі звон.
Вёсны там... Ласкі нясмелыя сонца
Будзяць жыцьцё у радзімай старонцы,
Робіцца неба сіней.
Вецер,. прапётам, цалуе, ласкоча,
Нешта вясеньняе, мілы, шапоча,
З таячых вее палей.
Таюць сьнягі... Ручаінкі зьбягаюць,
З грукатам, звонам зямлю заліваюць,
Доўгімі робяцца дні.
Ў сініх лясох зацьвітаюць пралескі,
Сэрца хвалююць праменныя блескі
Новае вечна вясны...
Лета там... Хвалі па жыце гуляюць,
Колер зялёны ў срэбны зьмяняюць,
Срэбны ў сіні, сівы...
Сьцежкай зялёнаю ў жыта забрацца—
Можна ў золаце зьнікнуць, схавацца,
Жыта—вышэй галавы...
Косы зьвіняць на лугу—сенажаці,
Хочацца твар гдзе ац сонца схаваці,
Горача... Нехта пяе...
Горача... Жніўныя песьні па нівах
Ціха ў тужлівых плывуць пералівах,
З ветрам у даль іх нясе...
Восень там... Золата стромкіх бярозаў.—
Лісьць пачарнеўшы ад першых марозаў,—
Шу... пад нагамі шуміць.
Плавае золата з хвалямі ветру,
Срэбрам блішчыць у крыштальным паветры.
Ніць, павучынная ніць.
Пекна... А потым—туманныя далі,
Поле счарнеўшае: жыта пажалі,
Шэрая сетка дажджоў.
Высака крык жураўлінае стаі,
Крык, што, як плачам, душу надрывае,
Столькі ўжо чуты разоў!
Зімы там... Песьні глухія завеі,
Доўгія ночы, сьнягі без калеі,
Іскры халодныя зор,
Бор, што прыбраны ў льдзіны, каронкі,
Высіцца пышны, багаты і стромкі,
Сьнегам завеяны бор.
Ў вецьці бярозаў там, быццам сьлязінкі,
Тускла, халодна зіяюць ільдзінкі.
Сумна... А ў ясныя дні!
Пэрлаў, вагнёў, серабра пералівы,
Сьнежных раўнінаў праменныя дзівы,
Гэткай ня знойдзеш зімы!
Вёскі там... Гразь, саламяныя стрэхі,
Колькі рабінаў у садку для пацехі,
Студня з даўгім жураўлём...
Колькі кустоў недацьвёўшай паўрожы,
Крыж дзеравяны на канцы—раздарожжы,
Дах ад дажджу над крыжом.
Вечарам майскім вось тут, на расстані
Людзі пяюць, адмаўляюць літаньні,
Кленчуць у шэрым пылу...
Кленчаць: а сонца за вёскай зьнікае,
Золатам чыстым, густым залівае
Крыж і людзёў граМаду. *)
Верай магутнаю, сьветлаю сілай
Вее ад гэтай грамадкі пахілай,
Вабіць прыгожасьцяй май.
Нават адзін абразок гэткі ў полі—
Й сэрца цябе не забудзе ніколі,
Родны мой край!

## ВЯСНОЮ.

Ізноў вясна... Блакіту зьяньне,
І сонца ласкі, й фарбы раньня,
І ветру ў вочы пацалункі,
І чар увесь зямлі—пястункі,
Што, прабуджаючыся паволі,
Яшчэ праз сон сьмяецца ў полі,
Сьмяецца ў мглістых пералесках,
У сініх зорачках—пралесках,
Сьмяецца ў месьце нават чорным,
Сьмяецца сьмехам ясным, зорным,—
—Усё, усё даўно знаёма,
Усё пэражыта мною дома...
Але душа дрыжыць, вітае
Вясну, што вечна парывае,
Вясну, што будзіць сны, жаданьні,
Няясны сум—натхненьня раньне,
Што нават тутка, у чужыне
Прамень ясьнейшы ў сэрца кіне.

## ВАСІЛЬКІ.

У жытох расьцвілі, расьцвілі васількі...
На прасторах далёкіх, нянашых палёў,
Між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
На чужацкай зямлі расьцвілі.

Па пяшчаных узгорках палоскі бягуць,
Пад гарою, ўнізе, зелянеюць кляны,
Асыпаюцца яблыні—дзеці вясны,
Васількі па ўзгорках цьвітуць.

Кветкі мілыя, памяткі іншых палос,
Вузкіх метаў, паросшых румянкам, травой,
Кветкі—памяткі песьні жаўронка ціхой,
Песьні—звону з крышталяў нябёс...

Там, у гэных палёх вы ня гэтак цьвілі,
Гэткі сум не сьвяціўся ў вашых вачох,
З пахіленых, зьвяўшых напоў лепясткох,
Кветкі роднай, далёкай зямі...

---

*) У некаторых мяйсцовасьцях есьць звычай адпраўляць маевае набажэнства каля крыжа, за вескай, асабліва там, дзе далека да касьцела.

---

слова... хто пайме музыку гэтага слова, той увесь затрапечацца, як бы ранены:

„Задрыжыць пад навалаю дум:
„Гэткі страшна-пакутны іх стогн
І аб волі бязьмерны іх сум“!..

Вось з якой павагай і адказнасьцю адносіцца да паўстаўшага факту Беларускага Адраджэньня.

Але гэты страх, выклікаваны столькі-ж маральнай адказнасьцю, сколькі і паўдзіцячай чуласьцяй і нясьмеласьцяй, хутка зьмяняецца верай.

З надзеяй у шчасьце дзён сьвятлейшых
Устане збуджаны народ,
Нявідна йшчэ ў завірусе,
Куды ляжыць ягоны шлях.
Але дух творчы ў Беларусі
Жыве й змагае жыцьця шлях...

Ізноў трэба адзначыць адзін з найлепшых і найхарактэрнейшых для паэзіі Ул. Жылкі вершаў кніжкі „**Віхор**“, які прывядзем увесь:

Гасьцём і тараю трывожнаю
Зьляцеў да нас з пад сьветлых зор.
Краінай любаю, разложнаю
Імкне, гудзе, шуміць віхор.

* * *

І не—**ня злы, але бушуючы**
У шалёным імпэце ўвесь ён,
Ваду вазёр і рэк хвалюючы,
Пусьціў па пушчах песьню—звон.

* * *

Грыміць, гудзе ўсё недарэчнае...
Што раз віхор гучней, прудчэй...
Услухайся, паймі адвечнае—
І гімны вырвуцца з грудзей!..
Пара, пара дазнацца, зьверыцца
Сваіх магутных сонных сіл!
Адважны хто спыніць намерыцца
Размах жыцьця і творчы пыл?!

* * *

Дзе йдзем? І дзе канцы канцовыя?
Дзе ходу нашаму мяжа?
У адказ віхор пяе ўсё новае,—
І лязіво блішчыць нажа!..

Вось якім нясьмелым — „нязлым, але бушуючым“ і будзячым творчы пыл, і хістаючым „усё недарэчнае“ робіцца, прайшоўшы праз паэзію Ул. Жылкі, страшэнны „ўсходні віхор“...

І толькі ў канцы гэты віхор паказывае свае грознае аблічча, бліснуўшы „лязівам нажа“—той „выканаўчай маланкай“, якая спаўняе прысуды „Зорнага суду“ на зямлі...

---

І ізноў трэба сцьвярдзіць, што гэты малады „віхор будучыны“ робіцца „ня злым“ і дзеля таго, што паэт любіць родную **старыну мінуўшчыны**...

Аб гэтай любові кажуць гэткія вершы, як „Дзед“, „Люблю, ня знаючы пуціны“ і рад іншых:

Гэтым „бушуючым віхрам“ напоўнены ня толькі зьмест, але і самы рытм вялікшае часткі найлепшых твораў паэта, і гэтая гармонія сэнсу і рытму, зьместу і формы, духа і стыхіі—найлепшая адзнака таго, што гэтыя вершы спараджоны — у вольным акце саматварэньня — з першароднага „Духа Музыкі“, як любіў выражацца Ніцшэ.

Паэт выробляе свой уласны рытм, і ў гэтым—першая адзнака, што перад намі—пясьняр з ласкі Божай. **Характэрным** прыкладам гэтай ужо зусім **арыгінальнай** рытмікі зьместу і формы зьяўляецца верш на стр. 12:

Толькі той, чый вольны дух
Застаецца ў бойках квол,
Толькі той, хто творыць рух
Беларускіх мест і сёл;

Толькі той, хто верыць ў цуд—
Нашу долю курных хат,
Толькі той, хто любіць люд,
Толькі той—мой любы брат.

. . . . . . . . . . . . . .

Нас балее, што ні раз —
Чуюць моц чужы і свой!
Жджом: надойдзе грозны час
Будзе радасьць, будзе бой!..

Пагалоска зьдзівіць сьвет,
Заварожыць песьняў тахт —
**Бо значны дзядоўскі сьлед**
**І вядзець у далі шлях.**

Мо' запыніц яго кат?
Мо' спужаемся чагосьць? —
Калі трэба, умерці на'т
Нам ня страх, а шчасьце ёсьць!

Гэты верш, апрача свайго чыста жылкаўскага „баёва-далікатнага“, прасякнутага **любоўю** віхорнага рытму, характэрны і тым, што сумяшчае паэзію песьняра на моцным і „значным дзядоўскім сьляду“ мінуўшчыны з перспэктывай „далёкага шляху“—будучыны.

---

Паэт—„грамнічная сьвечка прад Богам“ — часамі „ціхай-ціхай згарае малітвай“ — за родны край, „абвеяны злой сухавеяй“, „задушаны ліпкаю плесьняй“, ды за „зблудзіўшы ў бездарожжы“ на цёмным цярновым шляху народ.

У гэтых ціхіх малітвах знаходзіць праяву напоў жаноцкая, напоў дзіцячая, чуласьць паэта, яго „нясьмеласьць“ у баі...

Але ён ведае, што з яго сьлёз, — з сьлёзаў народнага песьняра—зьбяруцца дажджы—навальніцы!..

І тады яго „ціхія малітвы“—мацнеюць, гучнеюць і ён ізноў знаходзе ў душы свой „бушуючы віхор“.

